© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# САРДЭЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ ДЭЛЕГАТАМ IV З'ЕЗДУ БГКТ



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (381) | ГОД VIII | 16 ЧЭРВЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

## ПРАЦАВАЦЬ, КАБ СНЕГ ГАРЭЎ

інж. МАКАР ДЭМЯНОВІЧ — старшыня ГП БГКТ

Вось ізноў мінулі мы важную веху на нашым шляху. Стаім перад чарговым З'ездам. Ужо чацвёртым.

Чым быў знамянальны пяройдзены адрэзак дарогі?

Перад усім, мы не проста ішлі. Ішлі пракладваючы дарогу.

Трэці З'езд лічыў, што галоўным полем дзейнасці БГКТ павінна быць вёска. Ажыццяўляючы гэты правільны напрамак, мы часта сустракаліся з цалiной, якую трэба было падняць, каб яна магла выдаць жаданыя ўсходы.

Кажуць людзі, што найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы. Гэту праўду мы праверылі на сабе. Мінулы перыяд зрабіў нас і багацейшымі і непараўнальна мацнейшымі, чым былі мы да яго. За апошнія 3 гады арганізацыя наша амаль падвоілася, уплыў яе сярод насельніцтва ўсцяж пашыраецца. Сталі мы адыгрываць сапраўды важную ролю ў жыцці вёскі. Далейшыя тэмпы набірае самадзейны рух, штораз актыўней уключаюцца нашы гурткі і ў іншыя грамадскія мерапрыемствы, а ўдзел актывістаў у слаўным ужо на ўсю краіну гайнаўскім пачыне — будаўніцтве грамадскімі сродкамі вясковых крамаў — усім вядомы.

Мы зрабілі несумненна вялікі крок наперад. Але не будзем зазнавацца, ні бесклапотна самасупакойвацца. Перад намі яшчэ шмат цаліны.

Па-ранейшаму трэба нам асноўныя намаганні кіраваць на вёску, якая, нягледзячы на вялікія перамены, якія ў ёй адбыліся і адбываюцца, усё яшчэ, у параўнанні з іншымі раёнамі краіны, з'яўляецца адсталай. Наша задача — памагчы выбрацца ёй з гэтага стану. Няправільна думаюць тыя актывісты, якія лічаць, што наша арганізацыя павінна абмежавацца выключна да культурнай дзейнасці, і калі ставіцца перад імі шырэйшыя заданні, пачынаюць падазраваць нейкую пастку, нейкі нічым не абгрунтаваны замах на самую ідэю існавання Таварыства. Такая думка фальшывая. Нам трэба і надалей класці ўсе намаганні на развіццё і пашырэнне мастацкай самадзейнасці, і роднай мовы ў школах, і літаратурнага жыцця, але мы павінны глыбока ўсведаміць ісціну, што ўсе гэтыя, вельмі важныя і патрэбныя ў грамадскім жыцці галіны, з'яўляюцца толькі часткай тых вялікіх абшараў чалавечага дзеяння, якія складаюцца на сапраўдны ўзровень культуры. Культуры з вялікай літары. Аб ёй вырашае быт народа. Чым ён вышэйшы — вышэйшым становіцца і яго культурны ўзровень.

А паколькі беларускае насельніцтва ў Польшчы ў прыгнятаючай большасці сяляне, трэба з гэтага факту рабіць у нашай дзейнасці адпаведныя вывады. Вось чаму мы высунулі лозунг: «Напрамак — сельгасасвета».

Гэта зусім не абазначае, што мы адказваемся ад іншых галін дзейнасці (развіваць іх абавязвае нас статут Таварыства), але гаворыць аб нашым жаданні ўздзейнічаць на шпарчэйшае развіццё нашай вёскі, на павышэнне яе дабрабыту.

(Працяг на стар. 5)





У Гайнаўскім «Доме настаўнік а» выстаўка настаўнікаў-мастакоў Анатоля Корзуна і Віктара Кабаца.
Фота: — архіў.

## НАСУСТРАЧ IV З'ЕЗДУ БГКТ

Гурткі БГКТ, гэта аснова дзейнасці нашага таварыства. Асаблівую актыўнасць у працы гурткі пачалі праяўляць пасля III-га З'езда БГКТ, на якім вырашана асноўную дзейнасць таварыства — канцэнтраваць у беларускіх вёсках. Таварыства бліжэй вёскі, бліжэй патрэб вясковага насельніцтва — гэта асноўны лозунг, які прысвячаў нашай арганізацыі ў апошнія гады, пасля III-га З'езда.

Паглядзем, якія поспехі асягнулі ў працы паасобныя аддзелы таварыства рэалізуючы гэты лозунг.

Зразумела, што з прычын тэхнічных немагчыма паказаць у адным нумары «Нівы» ўсяго багацтва і рознароднасці форм дзейнасці нашага таварыства. Прапануем пазнаёміцца толькі з некаторымі, так сказаць, тыповымі ў даным павеце формамі дзейнасці БГКТ.

### ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ

«Дом настаўніка» ў Гайнаўцы пабудавана нядаўна. За гэты кароткі перыяд часу ён патрапіў стацца найбольш папулярным месцам культурнага адпачынку жыхароў Гайнаўкі. Тут змяшчаецца аддзел БГКТ. Праўленне аддзела супольна з праўленнем Саюза польскіх настаўнікаў арганізуе шэраг цікавых мерапрыемстваў, якія сцягваюць сюды не толькі жыхароў Гайнаўкі, але і людзей нават з адлеглых вёсак павета. Цікавыя «Згадуй згадулі», выстаўкі, даклады, сустрэчы — гэта толькі некаторыя формы дзейнасці БГКТ у Гайнаўскім «Доме настаўніка».

На Гайнаўшчыне нядрэнна развіваецца і рух мастацкай самадзейнасці. Зараз існуе тут 14 драмгурткоў. Развіццё руху мастацкай самадзейнасці, арганізатарамі якога з'яўляюцца перш за ўсё гурткі БГКТ, найлепш адлюстроўвае гурток у Скупаве. Гурток падрыхтаваў дзве п'есы. З пастаноўкамі іх пабываў у 15 вёсках. Выступаў таксама на павятовых дажынках, фестынах і акадэміях. Даход з выступленняў скупаўскія артысты пастанавілі прызначыць на пакупку тэлевізара. З гэтай мэтай гурток БГКТ

(Працяг на стар. 3)



Школа ў Скупаве — месца дзейнасці гуртка БГКТ.
Фота: В. Млыньчык

## IV З'ЕЗД БГКТ

16 чэрвеня г.г. у Беластоку адбудзецца IV з'езд Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

З'езд падвядзе вынікі дзейнасці Таварыства за мінулыя тры гады і вызначыць напрамак на будучы перыяд.

З'езд адбудзецца ў будынку ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай 11 і пачынаецца а гадз. 10.

## ВЯРНУЛІСЯ З АПОЛЯ

(РАЗМОВА З КІРАЎНІКОМ „ЛЯВОНІХІ" ВАСІЛЁМ КАРДЗЮКЕВІЧАМ)

— Дзе Аполе, а дзе Беласток. Аднак два гэтыя гарады і два ваяводствы знайшліся і пасябравалі. Яшчэ адзін доказ, што дружба не знае граніц. Нават у нашым святкаванні Года Беластоцкай Зямлі Аполе ідзе з намі ў ногу. Нашае свята — гэта і іх свята. Нядаўна ў Аполі адбылося многа ўрачыстасцей звязаных з нашым Годам. Ад нас некаторым удалося там быць. Ты, Васіль, згодзен са мной у тым, што сказала.

— Пакуль поўнасцю.

— Як гэта, пакуль?

— Мы ездзілі туды не любавацца цудоўнаму святу, а тварыць яго. Цешыць другіх, но і паказаць: вось глядзіце і слухайце, мы беластоцкія беларусы.

— Адным словам артысты. Ганарымся вамі — такімі здольнымі, вясёлымі беларусамі з «Лявоніхі». — Як жа вас прымалі?

— Раскажу ад пачатку. Мелі мы чатыры канцэрты: Гродкаў, Ныса, Намыслаў, Браніцэ. Гледачоў было заўсёды поўна. Прымалі вельмі добра...

— Пераб'ю. Гэта ўся афіцыяльшчына. Мне трэба інакш.

— Хочаш, каб хваліўся?

— Калі маеш чым.

— Вось адзін выпадак у Нысе. У час канцэрту пагасла раптам святло. Зрабілася цёмна, хоць у вочы калі. А людзі чакаюць. І ўяві сабе, чакалі так паўтары гадзіны. Але калі святло зноў запалі-

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ГОД 1963 У ГАРАДКУ



**Іван Трахімчык на будоўлі.**

Шкілет аблеплены рыштаваннямі, горбы пустакаў і жвіру. Атмасфера вялікай будовы. Цэментавы пыл ліпне да ног і вопраткі. Будучыя залы-пакоі. Іван Трафімчык інфармуе: тут кіноглядзельная зала, тут бібліятэка, чытальня, зала для гульняў. У падзямеллі кавярня.

Па імправізаваных крутагаловых сходах ідзем на паверх. Унізе Гарадок. А гэтая будоўля высіцца над ім яшчэ з пустымі дзіркамі акон і дзвярэй, а ўжо цэнтр гарадоцкіх спадзяванняў. Дом культуры. Уласны! Зроджаны ў неспакойных сэрцах людзей, неймаверна смелы праект набірае вось колераў, кшталтаў, здаровага цела. Ракеты ляцяць на Марс, а рукі гарадчан лапата па лапаце выкідаюць сотні тон зямлі. Лапата па лапаце. Неспакойны век і неспакойныя людзі, якія рвуцца з матыкай на месяц. І зусім не дарма. Чакаць, ды чаго, дакуль, ад каго, а час усё праходзіць, бясцэнны час. У Гарадку патрапілі цаніць час. І ў выніку вось магутная будоўля горда глядзіць на прахожых яшчэ толькі дзіркамі акон.

Вартасць бескарыснай (не бескарыснай, бо для сябе і пакаленняў) працы рук гарадоцкіх людзей уложанай у гэты дом? Нялёгка адказаць. Паўтара мільёна, ці крыху больш, агледзеўшы будоўлю, скажа фаховец. Але ў гэтым праўдзівым сухім паўтара мільёна злотых грамадскага чыну гарадчан не ўбачым сэрца людзей, якія рабілі мільён залатовак, не ўбачым іх мазалёў, натугу мускулаў людзей і коней.

Гарадоцкая ода неадлучна ад аднаго тамтэйшага чалавека, Івана Трахімчыка. Працуе манцёрам на пошце. Ці толькі? У тым то і справа, што не толькі. Яшчэ будуе Гарадоцкі дом культуры. Так сказалі ў Гарадку. Ад самога Трахімчыка цяжка чакаць, каб пачаў гаварыць аб сабе: «выбралі старшынёй камітэта будовы». А рэшта — вадзіў па будоўлі, глядзіце. І яшчэ: «Маем ужо гатовую ўсю сталярку. Пустакаў 7 тысяч зрабілі самі».

Скромнасць Трахімчыка і мне ўдзяляецца. Не маю сумлення прымушаць яго гаварыць пра сябе. Але ведаць хочацца: хто кіруе, якія інжынер. Намала ёсць спраў. Крыху выручае старшыня Прэзідыум ГРН Дзярманскі. Інжынерам, кіраўніком і ўсім іншым Трахімчык.

А Трахімчык вядзе па завулкам у нейкі дом. «Наш брыгадзір — Уладзімір Паплаўскі — прадстаўляе гаспадара і да яго — пакажыце планы».

Сядзім над планамі. Для мяне кітайшчына. А Трахімчык: так будзе выглядаць пярэдняя сцяна, так бакавая, так з тылу. Тут вось бачыце рэчка, мы яе ўрэгулюем і ў гэтым вось трохвугольніку зробім пляж. А тут кругом дома і далей будзе парк. А гэта прозвішчы інжынераў, якія нам бясплатна зрабілі праект. Вартасць яго 57 тысяч злотых. Запісваю — інжынеры з аддзела архітэктуры і будаўніцтва Прэзідыум Павятовай рады нарадовай у Беластоку: Любнеўскі, Буйноўскі, Шэлігоўскі, Бурак, Ціханюк, Малышка. Трахімчык дадае: «Любнеўскі і Фірсовіч трымаюць нагляд над ходам будоўлі. Прыязджаюць сюды з Беластока». І так, лініі і крэсачкі з лістоў паперы замяняюцца ў сцены, вокны.



**Дом культуры, дня 7 мая 1963 г. (Прыдзе дзень, калі пакажам іншы яго здымак).**

А дом культуры, хоць яшчэ пустымі дзіркамі акон свеціць, ужо, здаецца, варушыць Гарадок, ужо падказвае, забаўляе. Ужо, здаецца, гарадчанам не захочацца ўвайсці ў свежыя парогі з пустымі рукамі. Ужо, здаецца, хочацца ім сустрэць адкрыццё свайго дома з пэўным здабыткам. Ужо, ведаю добра, што свядома і рэальна думае аб гэтым адзін чалавек у Гарадку — Пётр Мішчук.

У між часе прыпомню: некалькі год таму быў у Гарадку жаночы хор пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай. Гарадок ведалі ва ўсёй Польшчы. Тут, гаворачы словамі Твардоўскага, не ўбавіць, не прыбавіць, так гэта было. Потым цудоўны калектыў перастаў існаваць. Усе шкадавалі вельмі, ды больш нічога не рабілі. Таму я з тым большай упартасцю дабіралася да чалавека, які захацеў адрадзіць традыцыю Гарадка.

І вось мы сядзім за круглым сталом у пакоі Пятра Мішчука. Аддаем яму голас.

— Год таму я прыехаў сюды. Прыглядаўся і ўбачыў, што моладзь ходзіць самапасам, усё каля гасподы круціцца. У Гарадку — фабрыка, ГС, сякая-такая святліца, і кожны хацеў мець мастацкі калектыў толькі для сябе. Я стаў на становішчы — нам трэба яднацца. Стварыць адзін калектыў, але добры. Для ўсіх. І так пачалося.

— У кабінеце старшыні ГРН праводзіце свае спеўкі?

— Так. Старшыня адабрае нашу працу і памагае. Ды не толькі ён. Па сутнасці я разам з Нінай Цыванюк — сакратаром Прэз. ГРН і Шурай Яроцкай з фабрыкі пачалі ўсю гэтую справу. Яны цяпер спяваюць у хоры.

— Гарадок і яго акаліцы вельмі багаты народнымі песнямі нідзе не запісанымі. Як вы глядзіцё на тое, каб ваш хор вывучаў гэтыя песні, захоўваў іх, папулярызаваў?

— Я яшчэ не паспеў пазнаёміцца з тутэйшым песенным фальклорам, але зраблю гэта, буду запісваць песні, і мы будзем уключаць іх у нашую праграму.

— Я асабіста цешуся, што ў Гарадку зноў пачынае варушыцца, пачынае ажываць добрая, пахвальная традыцыя Гарадка. Вы напэўна чулі пра яе?

— Я зраблю ўсё, што ў маіх сілах, многа аднак залежыць ад людзей, ці будзе ахвота, ці будуць прыходзіць, ці захочуць працаваць. Я сказаў ім у пачатку, што буду працаваць без грошай, абы рабіць нешта добрае. Я не магу сядзець бяздзейна, не прызвычаены. Планую яшчэ развучваць гарманістаў, каб потым стварыць аркестр.

І так, што ж можна сказаць яшчэ... Хіба толькі прыпомніць Гарадку, што ахвота і энтузіязм да працы дырыжора Пятра Мішчука — гэта толькі частка, вялікая, але частка. Да яе дадаць ахвоту і энтузіязм маладых і старэйшых гарадчан і тады атрымаем цэласць, якая зможа прыносіць прыгожы плён. Вельмі хочацца, каб уваскрэсла спявачая слава Гарадка перыяду Ніны Мушынскай. Апошнія словы пішу з надзеяй і перакананнем, што людзі ў Гарадку ганаровыя і не спыняцца на палавіне дарогі.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**
**Фота: Г. Рагазінскі**

# НАСУСТРАЧ IV З'ЕЗДУ БГКТ

(Працяг са стар. 1)

арганізаваў масавую працу ў лесе пры ачыстцы дрэў. Зараз на кніжцы ПКО гуртка знаходзіцца 8 тысяч злотых. Яшчэ некалькі канцэртаў скупаўскіх артыстаў — і жыхары вёскі, як першыя ў павеце, будуць штодзённа аглядаць тэлевізійныя перадачы.

Аднак найбольш тыповай дзейнасцю таварыства на Гайнаўшчыне з'яўляецца арганізацыя насельніцтва да грамадскіх чынаў. Гурток БГКТ у Альхоўцы быў ініцыятарам пабудовы новай крамы. Члены гуртка больш за ўсіх працавалі пры яе пабудове. Зараз у Альхоўцы культурным аб'ектам з'яўляецца мясцовая крама. Тут можна купіць усё, ад іголкі да матацыкла. Месячны абарот Альхоўскай крамы складае звыш 60 тысяч злотых. Прыклад Альхоўкі стаўся папулярным на ўсёй Гайнаўшчыне. Усюды там, дзе будаваліся новыя крамы, гурткі БГКТ былі самымі актыўнымі ўдзельнікамі грамадскіх чынаў.



**Крама ў Альхоўцы, якой ініцыятарам пабудовы быў гурток БГКТ.** **Фота: В. Млыньчык**

---

крыецца перад рускімі. Не, тут трэба дзейнічаць інакш. Па-першае, агента нельга знаёміць з аперацыяй. Аб архівах ён павінен даведацца быццам выпадкова, абсалютна павінен быць упэўнены, што сховішча знаходзіцца ў Остбургу. Па-другое, агента трэба правáліць так, каб ён і не падазраваў, што яго падставілі. Па-трэцяе, трэба падабраць, не вельмі стойкага чалавека, які б абавязкова пакаяўся на допыце і выклаў савецкай контрразведцы тое, што «даведаўся» аб архівах. Тады ён будзе трымацца гэтых паказанняў, што б з ім не рабілі. бачучы ў іх сваю самую галоўную шанцу застацца ў жывых! Вы злавілі маю думку!

— Яна цудоўная! — усклікнуў Вісбах. Галоўнае ў ёй, што агент не зменіць паказанняў, нават калі яго будуць пілаваць на кавалачкі. Ён жа ўпэўнены, што гаворыць чыстую праўду і ў гэтай праўдзе — яго ратунак!

— Менавіта так, Вісбах. Але пойдзем далей. Мы не гарантаваны ад выпадковасцей. Агента могуць падстрэліць пры перакідцы праз лінію фронта. Пры арышце ён раптам акажа супраціўленне і будзе забіты. Ён, чорт вазьмі, можа захварэць і памерці, урэшце — трапіць пад машыну. Або возьме і не раскрыецца на допыце.

— Або яму не паверачь!

— Ваша праўда, Вісбах, яму могуць і не паверыць. Вывад: аднаго агента недастаткова. Патрэбны яшчэ і другі. Для страхоўкі.

— Другі агент з такімі самымі паказаннямі? — Вісбах зморшчыўся.

162

— Не абавязкова агент.

— Пачакайце. — Вісбах падскочыў на крэсле. — А што калі гэта будзе перабежчык?

— Якога падрыхтуюць па такім жа прынцыпу? — сказаў Упіц.

— Так. І закінуць, што ён і падазраваць не будзе, што закінуты. Калі зрабіць усё, як трэба, гэты чалавек будзе глядзець на следчага сумленнымі вачыма, упэўнены, што аказвае рускім неацэнную паслугу.

— Уф, — сказаў Упіц, адкідваючыся ў крэсле. — Менавіта так, Вісбах. Гэта тое, што патрабавалася. Чорт вазьмі, нібы гара з плеч! Мы з вамі перадолелі галоўную цяжкасць. Апошняе — тэхніка.

Вісбах задумаўся.

— Здаецца, я знайшоў добрага кандыдата на ролю перабежчыка. — Ён усміхнуўся. — Мой сябар. Камуніст адзін з тых, каго мы не рушылі, каб сачыць сувязі і лавіць іншых. У пляцак разаб'ецца, каб толькі дапамагчы рускім!..

Так былі распрацаваны асноўныя рысы аперацыі з Хоманам. У той жа час Упіц падабраў і другога ўдзельніка аперацыі — агента. Як ужо вядома, ім аказаўся Ліс-Шчука.

### ПАДЗЕІ ЗАВАСТРАЮЦЦА

І так, Вісбах увайшоў у пакой, дзе яго чакалі Больм і Бекер. Быў усхваляваны.

— Паўтары гадзіны назад я засёк Шуберта, — сказаў ён.

163

— Оскара Шуберта? — Больм устаў.

— Яго самога. Бачыў, як вось зараз бачу вас. І ведаеце, з кім быў Шуберт? З Ота Шталекерам!

Больм прайшоўся па пакоі.

Адшукаць Шуберта, след якога контрразведка даўно згубіла, было вялікай удачай. А што Шуберт быў разам са Шталекерам, рабіла ўдачу абвера яшчэ больш значнай. Можна было меркаваць, што менавіта праз Шталекера Шуберт трымае сувязь з няўлоўным парашутыстам.

— Расказвайце, Вісбах, як была справа, — загадаў Больм.

— Але я яшчэ не сказаў усяго. Шуберт і Шталекер ведаюць Генрыха Губэ — шафёра завода «Ганс Бемер».

Шафёр Генрых Ґубэ! Штандартэнфюрэр Больм успомніў сваю гутарку з Упіцам і допыт палоннага Цюпы. Цяпер было ясна, хто пакінуў кінжал лагерніку Андрэю.

— Але і гэта не ўсё. — Вісбах падсунуўся да субяседнікаў. — Паўгадзіны назад я ўстанавіў, што ў Остбург прыбыў Георг Хоман!

— Перабежчык Хоман? — у адзін голас усклікнулі Больм і Бекер.

— Ён гаварыў са мною па тэлефону. — Вісбах усміхнуўся, любуючыся выкліканым эфектам. — Мы ўмовіліся аб сустрэчы. Званіце, каб падрыхтавалі людзей. Трэба зрабіць так, каб заўтра з раніцы, калі я выйду на спатканне, з мяне не спускалі вачэй.

(Працяг на стар. 7)

164



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# НАСУСТРАЧ IV

## КУРСЫ І САМАДЗЕЙНАСЦЬ

Асноўныя дасягненні БГКТ на Бельшчыне — гэта асветная праца з узрослымі. Вельмі папулярныя тут праблемныя курсы, якія арганізуе таварыства супольна з інспектаратам асветы. Запачаткаваны яны ў 1960 годзе. Тады было іх толькі тры. Зараз у 11 вёсках павета старэйшыя жыхары вучацца роднай мовы.

Праблемныя курсы — гэта асноўная прычына, што на Бельшчыне карэнным чынам узрасло чытальніцтва беларускай кніжкі ў 16 бібліятэках. Бібліятэкі налічваюць каля 2000 пастаянных чытачоў.

Мастацкі калектыў у Паўлах адзін з лепшых на Бельшчыне.

Характэрнае для Бельскага павета і развіццё руху мастацкай самадзейнасці. Зараз існуе тут 16 драмгурткоў. Напрыклад, драмгурток у Леўках, якім кіруе настаўнік мясцовай школы Генрык Гаўзе, заняў першае месца ў Ваяводскім аглядзе гурткоў мастацкай самадзейнасці. У гуртку пазашкольная моладзь і старэйшыя жыхары вёскі. Нядаўна яны з пастаноўкай беларускай п'есы выступалі ў Варшаўскім палацы культуры і навукі.

Добра дзейнічаюць таксама гурткі мастацкай самадзейнасці ў Паўлах, Дзянісках, Кожыне, Войшках і другіх мясцовасцях павета.



Надзя Азябла ў сваім агародчыку.
Фота: В. Млыньчык

## ІНІЦЫЯТАРЫ НОВАГА

Пянькі праславіліся на Беласточчыне тым, што купілі сто першы трактар у павеце. Тут існуе сельскагаспадарчы гурток, які ўжо мае чатыры трактары з поўнымі камплектамі сельгасмашын. У Пяньках існуе таксама вядомы са сваёй актыўнай працы гурток БГКТ. Гурток БГКТ быў ініцыятарам шэрагу грамадскіх чынаў пры пабудове і рамонце дарог, загаспадараванні сенажацяў і іншых. Члены гуртка шырока разгарнулі ў сваім асяроддзі рух мастацкай самадзейнасці. Найбольш актыўнымі і здольнымі артыстамі пянькоўскага драмгуртка з'яўляюцца трактарысты сельгасгуртка на чале з Янкам Тарасэвічам. Душой гуртка мастацкай самадзейнасці ў Пяньках з'яўляецца Надзя Азябла, жонка старшыні праўлення Беластоцкага павятовага аддзела БГКТ — Янкі Азяблы. Хата Азяблаў у Пяньках сталася проста штабам мастацкага руху. Азяблы ўжо не маладыя. Маюць узрослых дзяцей. Не гледзячы на гэта яны тут асноўным маторам усяго новага, што змяняе шэрае вясковае жыццё.

Надзя Азябла з'яўляецца таксама сакратаром гуртка вясковых гаспадынь. Гэта вельмі актыўны, ініцыятыўны гурток. Па яго ініцыятыве пянькоўскія жанчыны супольна з гуртком БГКТ наладзілі курс гатавання і пячэння. А зараз яны прыступілі да арганізацыі вясковага дзяцінца. У час летніх палявых прац пянькоўскія дзеці будуць пад належнай апекай педагога. Гэта шмат аблегчыць цяжкую працу вясковых жанчын.



Пянькоўскія трактарысты Мар'ян Пяскоўскі і Юрка Ваўранюк (апошні — актыўны ўдзельнік драмгуртка).
Фота — Млыньчык

## ВЯРНУЛІСЯ З АПОЛЯ

(Працяг са стар. 1)

лася, мы тады зрабілі ім канцэрт. Пусцілі ў рух усе рэзервы сваіх умеласцей. Было прыемна. Хачу сказаць таксама, што тамтэйшыя гледачы маюць аднак вялікую культуру. У цемнаце людзі захоўваліся вельмі спакойна, не было ніякіх нягодных выбрыкаў, выкрыкаў ці свістаў, як гэта здараецца аж надта часта ў нас. Я размаўляў з людзьмі, што ж было рабіць? Арыентацыйна гавару, якіх 80 працэнтаў гледачоў на нашым канцэрце прыйшло з вёсак. Гэта часта людзі з былой Заходняй Беларусі, або з нашай Беласточчыны.

Напрыклад, у Гродкаве зноў такі момант. Калі я не выйду на сцэну, на мяне ўпарта глядзяць уважлівыя вочы нейкага старэйшага пана. Упартыя, але чулыя. Даходзіць да песні «Беласточчына», апошняя зваротка «На Беласточчыне правёў я маладосць» — бачу ў тых вачах слёзы, чалавек вымае хустачку і выцірае іх.

У Намыслове настаўнік сельскагаспадарчага тэхнікума прывёў на наш канцэрт усю моладзь школы. Аказалася, ён сам беларус. Але моладзь была задаволена. Ах, колькі кветак мы ад іх атрымалі!

— То вас хіба там разумелі?

— Мы і баяліся адразу, што не будуць разумець. Аднак разумелі і то дакладна. Рэагавалі на ўсе гумарыстычныя моманты адразу.

— Хто з артыстаў найбольш падабаўся?

— Рэч нязмерна характэрная: у нас найлепш прымаюцца танцы і гумарыстычныя дыялагі. Там — песні, і то песні лірычныя. Наша Ніна (Свентахоўская — ВЛ) сваім «Маўчаннем» і «Вячэрнім вальсам» падбіла апальчан цалкам.

—Аб чым гэта сведчыць, па-твойму?

— Безумоўна аб вялікай музычнай культуры і любві да песні.

— Ты яшчэ не сказаў, як само Апольскае ваяводства.

— Шырокія прасторы ворных зямель. Вельмі добрыя азіміны і ярына. Амаль усё ў ПГР-ах, мноства садоў і зелені. Чыста і парадак. Само Аполе — у зелені дрэў, амаль не відаць дамоў.

**Вера Леўчук**

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ




Верка была цяжарнай і тады збунтавалася.

— Я ў вас усё роўна бы служанка — тое прынясі, туды пайдзі, так зрабі...

Нікодым Лісоўскі, яе муж, маўчаў.

Аляксандр не вытрымаў нараканняў братавой:

—Раз ты служанкаю сталася дык бяры па шэсцьдзесят пудоў і выматвай з хаты! — Аляксандр ведаў цану: па столькі плацілі служанкам знаёмыя гаспадары.

Верка астаўбянела.

Раскошны — малатарняй зарабляе. Што ж яму цяпер значыць — шэсцьдзесят пудоў! Проста — глупства.

Верка не забудзе дзевяру гэтых слоў. Не забудзе тых пасажных тысяч, што скарысталі на куплю малатарні.

У Слоі пляткавалі, зайздросцілі братам. Аж увосень 1950 года ўсміхнуліся суседзі: абмен грошай! У мураванай хаце Лісоўскіх паніка.

— Казаў табе, халера, каб не трымаць грошай, — пекліўся Аляксандр і бегаў з кута ў кут. — На бобах засталіся, чэрці паняслі на хвасце ўсёй заробак.

— Ад цябе нат' залатоўкі не выпрасіш, — кракваў Нікодым. — Пад падушку хаваеш...

За 200.000 злотых Аляксандр атрымаў усяго каля 6 тыс. у новай валюце.

— Наеліся, дурню!

Страты трэба адбіць і гэта яднала братоў. Аляксандр усё малаціў і малаціў дзесьці пад Саколкаю. Сезон. Для пэўнасці плату браў збожжам — па два пудзікі за гадзіну. Нікодым давозіў паліва для агрэгата і назад забіраў на фурманку цяжкія мяшкі з жытам. Гнаўся ў Крынкі або Саколку на торг. Прадаваў.

— Не спяшай, — хітрыў Аляксандр. — Пад вясну зацэнім столькі, колькі захочам. Зразумеў?!

Нікодым ішоў араць і абсяваць бацькоўскія загоны. Хтосьці пасмейваўся, што Аляксандр сілком жаніў яго на старасць, каб было каму абрабляць гаспадарку...

Капітал рос, і калі ў аколіцы загаварылі аб калектывізацыі, Аляксандр адчуў, што яго інтарэсы недаўгавечныя.

Супрасльскі кампаньён Прасняк дудукаў:

— Маеш грошы? Купляй пляц у Супраслі і будуй хату пакуль не запозна.

Аляксандр ужо ведаў, што значыць спазніцца з грашыма. Купіў пляц. Зімою, не чакаючы вясны. Летам аказалася, што падмоклы ён.

— Надулі, сукінсыны, але няма часу дабівацца праўды.

Нацэліўся на адно: уцячы з вёскі. Падатковыя наказы гміна шле на імя Нікодыма. Ну, і дзякаваць Богу.

— Слухай, — кажа Аляксандр Нікодыму. — Давай, пабудуем хату на два канцы, на ўсякі выпадак і табе прыдасца яна.

Будова не спорылася. Аляксандр прывык камандаваць. Прагнаў майстра.

— Рабі сам, раз ты такі разумны! — абураўся вясковы спец.

Нікодым дапамагаў брату і таму, каб той урэшце пераехаў да Супраслі, і даў яму вольную руку на гаспадарцы.

* * *

Аляксандр ажаніўся неспадзявана. Перад летам.

У хату прыйшла яшчэ адна гаспадыня — Ольга. Яна не квапілася мяняць мураванку на нявыканчаную драўляную хату ў Супраслі — далёка ад мужыковых і пасажных загонаў. А Верка ўжо восьмы год, як замужам тут. У яе двое дзяцей — Валя і Нінка.

Вайна «нерваў» немінучая. Ні з таго, ні з сяго грахнула чутка, што Ольга нагаварыла Аляксандра, каб прадаў тую хату.

У сераду Нікодым запрог каня. На возе расселася Верка з дзяўчынкамі.

Куды выбраўся? — азваўся Аляксандр.

— Валя прыхварэла, павязу да знахара.

Нікодым вярнуўся на чацвёрты дзень, увечары. Адзін.

— Да Супраслі ўцёк? — шыпеў Аляксандр. — Заб'ю, сволач.

— Я заняў свой канец... — прабаваў тлумачыцца Нікодым.

— Не быць гэтаму!

Паміж Лісоўскімі разгарэлася дзяльба — за пару мяшкоў бульбы, за адзін-другі воз саломы, за ка-



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ПАСЛЯ ТЫСЯЧЫ І СТО СТУПЕНЯХ СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ

«Калі наш філосаф быў у Венец-ті, епіскапы, ксяндзы і манахі накінуліся на яго як вароны на сокала:

— Скажы нам, чалавеча, — гаварылі, — як ты стварыў кніжкі славянам і вучыш іх, калі мы ведаем толькі тры мовы: стараяўрэйскую, грэчаскую і латынь?

Філосаф адказаў:

— Як не сорамна вам апазнаваць толькі гэтыя тры мовы! І патрабаваць, каб усе іншыя народы аставаліся глухімі?»

Тымі словамі сярэдневяковы аўтар біяграфіі Кірыла і Мефодзія апісвае сцэну, якая адбылася ў IX стагоддзі ў адным з касцельных сабораў, калі Кірыл абараняў раўнапраўе нацыянальнай мовы славян з мовамі рымскай і візантыйскай імперый.

Кірыл быў мовазнаўцам, ведаў латынь, грэчаскую, стараяўрэйскую мовы, а нават мову хазараў і арабскую мову. Канстанцінопальскі імператар пасылаў яго з рознымі дыпламатычнымі місіямі, між іншым да халіфа ў Багдадзе. І таму, калі ў 863 годзе пасланцы вялікамараўскага князя прыбылі ў Візантыю, просячы, каб прыслалі ім манахаў, якія валодаюць славянскімі мовамі, выбар імператара затрымаўся на асобе Кірыла і яго брата Мефодзія, роднай мовай якіх была балгарская мова.

Славяне, якія не ведалі ні латыні, ні грэчаскай мовы, уласна кажучы, былі замкнуты ў крузе ўласнай, роднай культуры, пераказваемай з вуснаў у вусны, паколькі не мелі ўласнага алфавіта адпавядаючага гукам іх мовы. Кірыл пастанавіў стварыць алфавіт, у якім пераказалі б патомкам тагачасны культурны здабытак, перакладзены на славянскую мову, што ставіла б яе ў роўным радзе з лацінскай і грэчаскай мовамі, якія лічыліся адзінымі мовамі культурнага свету.

За лацінскай сцэнаю хавалася палітычная, эканамічная і культурная экспансія германскай імперыі, а за грэчаскай сцяною — візантыйская імперыя. Складаючы славянскі алфавіт і ўводзячы славянскую мову на міжнародную арэну, Кірыл і Мефодзій стварылі да нейкай меры «трэцюю сілу» ў тагачаснай Еўропе — славянскі свет, які меў адыграць так важную ролю ў гісторыі свету.

Прыехаўшы ў Маравію, абодва браты аб'явілі вайну германскаму духавенству, якое старалася падпарадкаваць тыя землі Рыму і германскай імперыі. Вучоны Кірыл складае славянскі алфавіт, а Мефодзій выступае з прамовамі да людзей на зразумелай для ўсіх мове. Выклікала гэта лютасць германскіх епіскапаў, якія паклікалі абодвух братоў на папскі суд, закідваючы ім адшчапенства. Дайшло тады да апісанай сцэны, у якой Кірыл і Мефодзій баранілі перад саборам права да нацыянальнай мовы і славянскай культуры.

Так пачалася гісторыя славянскай пісьменнасці.

Праца Кірыла і Мефодзія — стварэнне славянскага алфавіта і першых кніг на славянскай мове — нарадзіла ўмовы да фарміравання самастойнай славянскай культуры. Скінута спробы ўтрымліваныя славянскіх народаў у пагардзе да ўласнай мовы, уласнай традыцыі і ўласнай народнай культуры.

Князь Барыс, першы цар паўсталай у IX стагоддзі балгарскай дзяржавы, пабудаваў у Прэклавіі манастыр і пасяліў там манахаў, якія займаліся развіццём мовы і славянскай пісьменнасці. У хуткім часе прэклаўскі манастыр стаўся цэнтрам народнага культурнага руху на Балканах. У 893 годзе абвясцілі там славянскую мову афіцыйнай мовай дзяржавы балгарскай імперыі.

На памяць тых здарэнняў, згодна з традыцыяй, дзень 24 мая святкуецца ў Балгарыі як Дзень балгарскай асветы і культуры, а таксама славянскай пісьменнасці. У гэтым годзе святкаванне асабліва ўрачыстае, таму што тысяча і сто год прайшло з таго дня, у якім абодва браты, Кірыл і Мефодзій, адправіліся са сваёю культурнаю місіяй у славянскія краіны.

«Каб ацаніць дзейнасць тых абодвух братоў, а таксама іх вучняў, мы павінны сысці па гэтых тысяча і сто ступенях і ўздыхнуць паветрам іх стагоддзя»... — піша Л. Станчэў, балгарскі пісьменнік.

Самыя высакародныя ідэалы чалавецтва — права да самастойнага палітычнага і культурнага развіцця кожнага народа, мір і дружба паміж усімі народамі — бяруць пачатак ад дзейнасці гэтых двух братоў.

І таму памятае аб іх не толькі балгарскі народ.

**АНДРЫЯН ЧЭРМІНЬСКІ**



## ПАСАДКА НА ЖЫВОТ

**Хутка, выгадна і цікава — гэта язда самалётам. Не язда, а палёт. Хто б не хацеў так ездзіць. Не пераймайцеся — прыдзе такі час.**

**Нашыя сучасныя самалёты маюць адзін маленькі дэфект — часам уздумаюць сапсавацца. Як, напрыклад, гэты на здымку — японскі. Ішоў ужо на пасадку, а калёсікі ўзялі і не захацелі высунуцца. Як тут у такім выпадку рабіць пасадку? Вельмі небяспечна. А ў самалёце 53 пасажыры. І ў такіх хвілінах усё ў руках шчаслівага лёсу і пілота. Самалёт са здымка сеў шчасліва на жывот на аэрадроме ў Токіо. Можна было ўздыхнуць.** **(вл)**

## КОЛЬКІ ГАДОЎ АКІЯНУ?

Па ступені распаду радыю можна дакладна вызначыць узрост вулканаў, горных хрыбтоў, карысных выкапняў, рэшткаў старажытных раслін. Многія прыродныя радыёактыўныя ізатопы ў прыродзе з'яўляюцца своеасаблівым гадзіннікам.

У час Міжнароднага геафізічнага года вывучэнню гэтай здольнасці радыю ўдзялялася вялікая ўвага. Савецкія геолагі і геахімікі даследавалі накапленні радыю ў водах акіяна, у глеі, які ўсцілае яго дно.

Акіяналагічныя экспедыцыі працавалі ў Ціхім і Індыйскім акіянах, на велізарнай плошчы ад Антарктыды да экватара. Асаблівую ўвагу вучоных прыцягнулі пробы «завісі» найдрабнейшых часцінак, што асядалі доўгія гады на дно акіяна.

Дзесяткі тысяч тон акіянскай вады перапрацавалі магутныя ўстаноўкі, якія аддзялялі часцінкі з радыём.

Гіганцкая работа была праароблена не дарэмна. Першыя ж аналізы паказалі, што колькасць радыю ў асадках нераўнамерная. Радыёактыўнасць акіянскіх глыбінь высокая. Чырвоныя глыбокаводныя гліны, якія сустракаюцца толькі на глыбіні чатырох-пяці кіламетраў і больш, маюць у сотні разоў больш радыю, чым звычайныя гліняныя пароды на сушы.

Чым выклікана такая высокая канцэнтрацыя?

Радый паступае ў акіян разам з рачнымі водамі. Затым яго захопліваюць часцінкі «завісі», і ён разам з імі пачынае асядаць. Праходзячы шматкіламетравую таўшчыню акіянскіх вод, часцінкі абагачаюцца радыем і асядаюць на дно. Вось чаму глыбакаводныя асадкі — так званыя чырвоныя гліны — найбольш радыёактыўныя.

Цяпер, калі выяўлены заканамернасці размеркавання радыю ў акіяне, галіна ўжывання «радыёактыўнага гадзінніка» расшырылася. Па ім мы дакладна вызначым узрост акіянаў, высветлім хуткасць накаплення асадкаў на дне, даведаемся, як змяняецца клімат нашай планеты.

Ужо атрыманы папярэднія даныя. Да прыкладу, Індыйскі і Ціхі акіяны існуюць каля ста — ста пяцідзесяці мільёнаў гадоў.

**(АДН)**



У Варшаве ў Народным музеі адкрыта выстаўка п. з. «Мастацтва на балгарскай зямлі ад старажытных часоў да нашых дзён». Экспазіцыя ахоплівае звыш 300 твораў.

На здымку: адзін з прадметаў залатога скарбца з VIII стагоддзя да нашай эры.



## КАБ НЕ БЫЛО БОМБАЎ...

**Голад на зямлі ўсё яшчэ з'яўляецца балючай праблемай. Важнай перашкодай у ліквідацыі голаду з'яўляецца дзікая гонка ўзбраенняў. За грошы выданыя на ўзбраенне пасля апошняй вайны можна было б праз 50 год бясплатна пракарміць усіх людзей на свеце, а таксама пабудаваць кватэры для 500 мільёнаў сем'яў.**

**Цяпер у арміях свету служыць каля 20 мільёнаў маладых, моцных мужчын, а 30 мільёнаў чалавек працуе пастаянна пры будове вайсковых баз і ў ваеннай прамысловасці, вырабляючы непатрэбныя вінтоўкі, гарматы, танкі, бомбы. Трэба прытым заўважыць, што ваенная тэхніка хутка «старэе»...** **(ся)**

## БЕЛАРУСКІЯ ЭКСПАНАТЫ Ў ПОЗНАНІ

Прамысловасць Беларусі будзе дэманстраваць на кірмашы вялікую колькасць розных вырабаў.

Мінскія аўтамабілебудаўнікі выставілі для агляду сваю новую машыну — самазвал «МАЗ — 503». Мінскі мотавеласіпедны завод пакажа дарожныя веласіпеды. Станкабудаўнікі Віцебска прадставілі на кірмаш бясцэнтравашліфавальныя станкі, а машынабудаўнікі бабруйскага завода імя Леніна — розныя помпы.

Тэлевізар «Беларусь — 110», радыёлу «Мінск — 61», фотаапараты «Вясна», кінапраектары «КН — 11» і «КН — 12» пакажуць прадпрыемствы электратэхнічнай і прыборабудаўнічай прамысловасці Беларусі.



НАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ

На фабрыцы птушынага маса ў калгасе імя Тэльмана, Мінскага раёна.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024




КУР'ЁЗЫ

## РЭКОРД

Дыктар чылійскага радыё Мунас Нунес устанавіў сусветны рэкорд няспынный гаворкі ў мікрафон — 51 гадзіна і 30 секунд. Увесь час ён знаходзіўся пад наглядам урачоў хуткай дапамогі на выпадак, калі яму стане дрэнна. Рэкорд мінулага года, устаноўлены Карласам Гарсіям, складаў 50 гадзін і дзве мінуты.

**«Ліберасьён».**

**З украінскага гумару**

## КАЛЯ ПЛОТУ

Двух суседзяў, стоячы каля плоту, вядуць гутарку:

— Вельмі вас перапрашаю, суседзе, што мае куры выдзяўблі ўсе зерні на вашым полі.

— Не шкодзіць. Мой Бобік выдушыў усіх вашых курэй.

— Дробязь. Я толькі што застрэліў вашага Бобіка.

— Ведаю. Я паламаў вашу стрэльбу на дробны кусочкі.

— Гэта яшчэ нічога не значыць. Галоўнае, што нашых добрасуседскіх адносін нішто не можа паламаць.

п. вб.





**Без слоў.**

## ЦАРЫ

Было гэта ў царскай арміі. Аднойчы ў час навукі да салдат падыйшоў афіцэр. Салдаты выструніліся.

— Ану, хто мне раскажа пра цароў нашай матушкі Расіі?

Усе майчалі. Афіцэр тыкнуў пальцам у нізенькага салдата.

— Раскажы!

Той выпаліў, як па камандзе:

— Цар Пятрук першы, Кацярына другая, Аляксандр трэці, Мікола, і яшчэ нейкая царыца, чорт бы яе забраў, забыў як зваць...

## РАШУЧЫ

— Праўдападобна ваша жонка мела намер выехаць у Крыніцу?

— Так, але я рашучы, не дазволіў ехаць.

— Я чуў, што яна аднак выехала.

— Так... выехала, але без майго дазволу.









# МОКРАЯ СМЕРЦЬ

Чытаем мы газеты, мілыя грамадзяне, і ўздрыгваем. Са ўсіх канцоў даходзяць вестні, што людзі топяцца. Хто ў возеры, хто ў рэчцы, а грамадзяне з шырокімі гарызонтамі — мора выбіраюць.

А ўсё таму, што плываць не ўмеем. Кожны сабака плывае, а чалавек не кожны. Праўдзівей, сярод уласных спраў чалавек плывае з фасонам, а на вадзе не можа ўтрымацца.

Я, напрыклад, таксама плываю няважна. Затое ныраю выдатна. Як нырну, магу быць пад вадой пяць мінут і больш, пакуль мяне людзі добрыя з-пад вады не выцягнуць.

Таму я вышэй кален у ваду не ўваходжу і нават у лазні крычу, каб выратавальны круг падрыхтавалі. Сцеражонага Бог сцеражэ, таму і жыву яшчэ на свеце.

Чалавек створаны вельмі далікатным. Вадой захлябнецца — гатовы. Празмерна гарэлкай нальецца, таксама гатовы. На службе нага спатыкнецца і тут гатовы. Вось і паспрабуйце ў такіх умовах дажыць спакойнай старасці.

Патрабуецца цяпер, каб грамадзяне мелі сярэднюю адукацыю. Таму шматлікія людзі ў вячэрніх школах вучацца. А па-мойму, будзь ты з вышэйшай адукацыяй, а калі плываць не ўмееш — грош табе цана.

Лекары рэкамендуюць чытаць кніжачку «Першая дапамога патанаючым». Апісваецца там, якімі рухамі можна з чалавека ваду выціснуць і паветра ўціснуць.

Па-мойму, больш практычным было б забараніць купацца, тым, хто не мае веласіпеднай помпкі.

Помпка — найважнейшая рэч для ўсіх, хто не ўмее плываць. Напрыклад, збярэцца чалавек лезці ў ваду, раздзяваецца на беражку, затым веласіпеднай помпкай надуе ў сябе паветра і потым плывае, бы пузыр. Зразумела, трэба старацца ў вадзе не выпускаць паветра, інакш спатрэбіцца «Першая дапамога патанаючым».

Жарты жартамі, а колькасць патанаючых прымушае нас непакоіцца. Звярніце ўвагу, мілыя чытачы, большасць тапельцаў — юнакі і мужчыны. Выходзіць, жанчыны разумнейшыя за нас і не ведаючы броду не сунуцца ў воду.

Вада рве берагі, каменне паносіць. А жыццё чалавечае панесці для яе так лёгка, як чалавеку саломінку пераламаць.

Не забывайце гэтага, мілыя чытачы, тады няшчасных выпадкаў будзе менш. На той свет няма чаго спяшацца мокрымі, невядома яшчэ, ці можна там высушыцца.

*Дзядзька Лявон*

## ВЯРБЛЮД І ЛІСА

Уброд раку
Пераходзіў вярблюд.
Пытае ліса:
— Ці глыбока тут?
— Ды не, кума,
Усяго на ступню!..
Пайшла ліса,
Пачала тануць.
— Ах, прайдзісвет!..
Ах, гад вярблюд!..
А ты ж казаў —
Не глыбока тут!..
Вярблюд з берага
пазірае:
— Гледзячы... ступня
якая!..

**Эдуард Зубрыцкі**

**ГУМАРЭСКІ**

## СЮРПРЫЗ

У кабінет Антона Кузьміча прынеслі новыя карціны. Нікель на іх зззяў сонечнымі зайчыкамі.

— А чаму б такія не павесіць дома, га? — разважаў Антон Кузьміч. — Дарагаватыя, праўда. Жонка не пагодзіцца. Ах, гэтыя жонкі! Ім усё мала.

Зноў зірнуў на карнізы, а яны ззялі ўсё прывабней і ўсё больш спакушалі.

— А чаму нікому ў голаў не прыйшло падараваць такія на наваселлі? Жонка, вядома, з радасцю прыняла б. А што калі?..

Антон Кузьміч уважліва агледзеў старыя карнізы, што стаялі ў парозе, і ў думках вылаяў шафёра за нездагадлівасць. Трэба ж было павесіць іх, а тады давядзецца самому.

— Тады трэба будзе табе, даражэнькі, на сабе несці назад. Зараз жа. Чуеш?.. Сорамна? Затое сумленна.

І ўжо з дакорам:

— Не чакала я такога сюрпрызу.

— А я чакаў? Хаця... чаму ад вас чакаць толькі благога?

**І. Ісачанка**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**Сёння, з выпадку з'езда БГКТ, адступім ад правіла і замест задавальнення просьбаў канкрэтных чытачоў, прысвецім нашу песню актывісткам Таварыства (хай прабачаць актывісты, але жанчыны маюць першынство). Зразумела, што ў песні адлюстроўваецца не толькі сучасная сітуацыя, але твор выбягае таксама наперад.**

## ЧАСТУШКІ АКТЫВІСТКІ БГКТ

Я ў БГКТ уступіла,
Стала многа кніг чытаць,
Кніжкі мяне навучылі,
Жыццё наша пазнаваць.

Пад акном маім прыгожа
Ружа белая цвіце.
Люба глянуць нам на «Ніву»,
З кожным нумарам расце.

Весялей іграй гармонік,
Хай нясецца слава.
Я ў аколіцы сваёй
Актывісткай стала.

Мне за добрую работу
Вызначылі прэмію, —
Патэфон я атрымала
І машыну швейную.

Усё хадзіла я, збірала
Кветкі верасовыя.
Актывіста палюбіла
За вочкі вясёлыя.

Мы ў сельгасгурток уступілі
І па-новаму жывём,
Не сярпом ўжо, як бывала,
А жняяркай жыта жнём.

Шырэй вуліца раздайся,
Трактарам дарогу дай.
Мы змагацца будзем дружна
За высокі ўраджай.

На ігрушы спеюць грушы,
А на дубе — жалуды;
З намі кожны сёння дружыць,
І стары і малады.

## ЧАГО ЗАХАЦЕЛА

— Ты зноў вяртаешся з гасподы? — сказала жонка да мужа.

— А ты б хацела, каб я там вечна сядзеў.

## АФАРЫЗМЫ

Выдаткі на якасць работы — чысты прыбытак.

Хмары — не дах для сельскагаспадарчых машын.

Трохпавярховая лаянка нічога агульнага з будаўніцтвам не мае.

Доўгая нарада дзень укарачае.

Высока падняты нос галаву прыніжае.

**П. Макарэвіч**



**— Глядзі, што гаворыш, бо яны маюць дурную звычку паўтараць кожнае сказанае намі глупства.**

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024